ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Кніга Ноша
№ 14
травень, 2012
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

## АЎТОГРАФ

# Аксана ДАНІЛЬЧЫК: «Не варта імкнуцца да славы дзеля славы...»

**– Шаноўная Аксана Аляксееўна, нядаўна выйшла Вашая кніга паэзіі «Сон, які немагчыма забараніць», што аб'яднала пад адной вокладкай Вашыя ўласныя вершы і пераклады з італьянскай мовы. Адкуль у вас цікавасць менавіта да Італіі?**

– Так атрымалася, што з усіх замежных моў я на больш-менш прыстойным узроўні вывучыла менавіта італьянскую. З яе і перакладаю. А калі гаварыць сур'ёзна, то італьянская літаратура мае глыбокія традыцыі і мне цікава сачыць за яе развіццём. У дадатак, калі мне нешта падабаецца, то хочацца, каб іншых гэта таксама зацікавіла. А італьянская літаратура не так шырока вядомая, як яна таго заслугоўвае.

**– Як увогуле ўплывае на Вашую творчасць перакладчыцкая дзейнасць? Ці «адгукаюцца» ноткі італьянскай паэзіі ў Вашых уласных вершах?**

– Кажуць, што пераклад – гэта найбольш уважлівы спосаб прачытання твора, а ўсё, што мы чытаем, так ці інакш пакідае свой след. Італьянская літаратура, безумоўна, прысутнічае ў маіх вершах, як непазбежна, так, думаю, і апасродкавана. Акрамя таго, пэўныя рэчы ўплываюць і на светапогляд. Праца над дысертацыяй па італьянскай літаратуры якраз з іх катэгорыі.

Дарэчы, я перакладаю не толькі паэзію, але і празаічныя тэксты. Не так даўно часопіс «Наша вера» скончыў друкаваць мой пераклад «Кветачак» Святога Францішка Асізскага, а зараз я перакладаю трактат канца XVIII ст. італьянскага драматурга Віторыё Альф'еры «Пра ўладара і пісьменства». Вельмі актуальная рэч, і хацелася б, каб з ёй пазнаёміліся беларускія чытачы. Ну вось, напрыклад: «Вядома, што пасрэдныя справы робяцца велічнымі ў вуснах выбітных пісьменнікаў, такім чынам, той, хто не ёсць вялікім сам па сабе, выдатна робіць, калі шукае таго, хто зробіць яго вялікім. Аднак усе добрыя людзі пакутуюць і нямала ад таго, што такія ілжывыя пёры знаходзяцца, і тым болей за танны кошт...». Праўда, надзённа?



**– Аксана Аляксееўна, Вы даследуеце італьянскую літаратуру і яе ўзаемадачыненні з беларускай. Ці ёсць кропкі судакранання беларускай і італьянскай культураў, у чым яны падобныя і чым адрозніваюцца? І ці можна чакаць Вашую кнігу пра гэта?**

– Ужо надрукавана больш за трыццаць маіх артыкулаў, большасць з якіх прысвечана менавіта італьянскай літаратуры, і дзве даволі грунтоўныя працы на «італьянскую тэму»: пра рэцэпцыю Дантэ ў беларускай літаратуры і пра італьянскі і беларускі рамантызм. Акрамя таго, лічу даволі цікавым і мой артыкул пра беларуска-італьянскія літаратурныя сувязі другой паловы XX ст. Магчыма, калі-небудзь я збяру ўсё гэта пад адной вокладкай.

Культура – паняцце настолькі шматграннае, не ўпэнена, што варта шукаць падабенства ці адрозненні, магчыма, лепш засяродзіцца на кропках судакранання: у сваёй аснове гэта хрысціянскія культуры, акрамя таго, Італію можна лічыць мастацкай скарбонкай свету, якая з усімі шчодра дзеліцца сваім багаццем. Не буду пералічваць імёны вядомых беларусаў ці, дакладней, выхадцаў з беларускіх земляў, так ці інакш звязаных з Італіяй. Вывучэнне гістарычных узаемасувязяў дапамагае лепш разумець некаторыя рэчы. Даволі нечакана было прачытаць ў нарысе «З крыва-

*(Працяг на стар. 7)*

**Даведка «Кніганошы»:**

**Аксана Данільчык – паэт, перакладчык. Аўтар кніг «Абрыс Скарпіёна», «IL MEZZOGIORNO. Поўдзень», «Сон, які немагчыма забараніць» і інш. Нарадзілася ў 1970 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.**

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Вярцінскі Анатоль. Жыцьмем: вершы і паэмы. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 132 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 21).**

У новую кнігу паэзіі Анатоля Вярцінскага ўвайшлі вершы 1997–2011 гг., якія, за некаторым выключэннем, не ўваходзілі ў асобныя выданні. Другі раздзел склалі малавядомыя паэмы 70-х гг. мінулага стагоддзя.




**Галубовіч Леанід. З гэтага свету: вершы пасля вершаў; прадм. Ц. Чарнякевіча. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 108 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 23).**

Гэтая кніжка – плён дванаццацігадовага публічнага маўчання паэта. Столькі часу ён не выступаў з вершамі ў друку, а дзесяць гадоў і ўвогуле іх не пісаў. Усе змешчаныя тут тэксты ёсць пазнакамі водгукаў яго душы на зрухі і праявы нядаўняга часу. Своеасаблівы метафарычны аналіз аўтарам свайго ўнутранага жыцця. Вершы публікуюцца ўпершыню.




**Лопатин Геннадий. Около облака: книга поэзии. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 220 с. – (Библиотека Союза белорусских писателей «Кнігарня пісьменніка»; вып. 22).**

Кнігу склалі вершы з цыклаў «Сирень начинает», «Без чисел и дат», «Лепить из снега», «Луны преобладанье», «Подписаться под осенью» і «Увидеть дерево». Гэта першая сур'ёзная кніга паэта, выдадзеная ў сталіцы. Фактычна ўпершыню беларускія чытачы могуць пазнаёміцца з творчасцю рускамоўнага аўтара, які жыве ў Ветцы.




**Анка Упала. Дрэва энталіпт. – Мінск: Логвінаў, 2012. – 90 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

«Дрэва энталіпт» – першая ў падсерыі «Кнігарня пісьменніка» «Пункт адліку» і першая ў творчай біяграфіі Анкі Упалы кніга. Яна змяшчае своеасаблівыя казкі для дарослых, у якіх спалучаюцца рэальная абсурднасць і абсурдная рэальнасць, асацыятыўная гульнёвасць і сур'ёзная засяроджанасць у сэнсавыя глыбіні. Гэта пашырэнне і пераасэнсаванне формаў і традыцый новымі подступамі-падыходамі ў новай літаратурна-мастацкай сітуацыі. Кнігу склалі апавяданні і вершы аўтаркі, у тым ліку творы з цыклаў «Кім быць», «Уклясыкі», «Без атраманту», «Трыпціх» ды іншыя. Ілюстрацыі да кнігі зрабіла мастачка Наталля Зямчонак.




**Зыкова Катерина. Объяснительная: стихи. – Минск: Логвинов, 2012. – 36 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

Дэбютны зборнік Кацярына Зыкавай тонкі ва ўсіх сэнсах. У ім 26 вершаў пра русалак, рыб, коцікаў, коней, слівы, сыктыўкары; а насамрэч – пра каханне і трошкі пра самоту.




**Бахарэвіч Альгерд. Шабаны. Гісторыя аднаго знікнення: раман. – Мінск: Галіяфы, 2012. – 272 с. – (Другі фронт матацтваў).**

Шабаны. Адно з сакральных месцаў сённяшняга Мінска. Канцавая станцыя міфічных аўтобусаў і нікому не цікавых лёсаў. Шабаны як брама; Шабаны як пастка. Іхная тапаніміка вяртае ў чужое мінулае, іхная геаграфія сягае далей за вызначаныя іх межы, іхная гісторыя больш загадкавая, чым можа падацца на першы погляд. Менавіта ў Шабанах і іх ваколіцах разгортваецца дзея гэтай кнігі, у якой прыватныя жыцці герояў пераплятаюцца з забытымі тэорыямі акадэміка Мара, за кожным паваротам чакае патруль часу, а ўспаміны дзяцінства пішуцца на старых мапах. Новая кніга Альгерда Бахарэвіча – раман пра магчымасці мовы і немагчымасць вяртання.




**Шапран Сяргей. Тры мяхі дзядзькі Рыгора, альбо Сам-насам з Барадуліным. – Мінск: Логвінаў, 2011. – 362 с. – (Кнігарня «Наша Ніва»).**

«Тры мяхі дзядзькі Рыгора, альбо Сам-насам з Барадуліным» – кніга гутарак журналіста, лаўрэата літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча Сяргея Шапрана з Рыгорам Барадуліным, размова ў якой ідзе не толькі пра чалавечы і творчы лёс народнага паэта Беларусі, але і пра родную Ушаччыну, пра маму Акуліну Андрэеўну і самых блізкіх сяброў: Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Міхася Стральцова, Генадзя Бураўкіна, Уладзіміра Някляева. І ў непарыўнай сувязі з гэтым – пра літаратуру, родную мову і пра краіну, у якой Барадулін даўно адчувае сябе, па ўласным вызначэнні, іншакраінцам.




**Гапеева Вольга. Метад муаравых крэсак: вершы. – Мінск: Галіяфы, 2012. – 76 с. – (Другі фронт мастацтваў).**

Кніга паэзіі «Метад муаравых крэсак» увабрала ў сябе найлепшыя вершы былых гадоў і новыя творы вядомай паэткі. Аматары сучаснай паэзіі абавязкова штосьці знойдуць для сябе ў паэтычным свеце Вольгі Гапеевай.




**Бурлак Вера. Дзеці і здані: вершы, п'ескі. – Мінск: Галіяфы, 2012. – 86 с. – (Другі фронт мастацтваў).**

Новую кнігу Веры Бурлак склалі вершы, замалёўкі і п'ескі. У назве «Дзеці і здані» зафіксавана еднасць двух пачаткаў: сувязь паміж светам жывых і светам памерлых, узаемаперацяканне таго, што здаецца абсурдызаванай «будзённасцю навыварат», і таго, што здаецца недатыкальнай таямніцай. Асобныя творы вызначаюцца іранічнай танальнасцю, разбурэннем існых літаратурных стэрэатыпаў, эксперыментальным пошукам.




**Кацярына Макарэвіч. Соль і неспакой: вершы. – Мінск: Галіяфы, 2012, – 44 с. – («Час воблы»; выпуск 1).**

Першай кнігай з новай кніжнай серыі «Час Воблы», што разлічана на пачаткоўцаў, якія ходзяць на літаратурнае аб'яднанне «Вобла», стаў паэтычны зборнік Кацярыны Макарэвіч. У кнігу ўвайшлі вершы, напісаныя ў 2009–2011 гг. «Соль і неспакой» – спроба сказаць. Што менавіта сказаць, кожны чытач можа вырашыць для сябе сам. Гэта першы зборнік аўтаркі.




**Талстоў Аляксей. Мінакі: раман. – Мінск: Галіяфы, 2012. – 298 с. – (Другі фронт мастацтваў).**

На першы погляд, «Мінакі» – гэта яшчэ адна урбаністычная казка з даволі прадказальным канцом, напісаная, як кажуць, па ўсіх канонах жанру. Аднак дзве сюжэтныя лініі, якія рана ці позна мусяць перасякчыся і раскрыць галоўную ідэю твора, чамусьці запаволеныя. Героі ў гэтым не зацікаўленыя. Яны маладыя і асцярожныя, яны ведаюць сабе кошт і на дробязі не разменьваюцца. Кожны жыве сваім жыццём і верыць, што робіць гэта належным чынам, кожны асуджае і ненавідзіць. «Мінакі» маглі быць выдатным узорам разважання на тэму таго, што ёсць «добра», а што ёсць «кепска», калі б не аўтар. Падаецца, Талстоў увогуле не вагаецца. Ён выдаляе гэтую дуальнасць як нешта непрыгожае і брыдкае, а на яе месца ўпэўнена ставіць вялікі пытальнік. Робіцца ўражанне, што аўтар і шкадуе сваіх герояў, і любіць іх, але вось дапамагчы ім ніяк не можа, пакідае іх сам-насам са сваімі праблемамі на халодных гарадскіх вуліцах, аддае на міласць чытачу, разлічвае на ягонае сумленне.




**Мікола Сянкевіч. Незваротны шлях. – Брэст: Альтэрнатива, 2012. – 220 с.**

Чарговы празаічны зборнік Міколы Сянкевіча выходзіць пасля дзесяцігадовага перапынку. Асноўная тэма ўключаных у яго аповесці, апавяданняў і мініяцюр – незваротны чалавечы шлях, жыццё «заціснутага паміж быццём і бытам» чалавека, які смутак і адчай у сабе імкнецца перамагчы верай у людскасць і справядлівасць. Не баяцца гэтага шляху, быць гатовым прыйсці на дапамогу тым, хто побач, мець адвагу на шчырасць – жыццёвае крэда большасці персанажаў гэтай кнігі.




**Лютых Андрей. Крепь: роман. – Минск: Галіяфы, 2012. – 552 с.**

Лета 1812 года. У Мінску сустракаюць напалеонаўскае войска з надзеяй на адраджэнне Вялікага Княства Літоўскага. Юны Алесь Саковіч чакае ад Напалеона яшчэ і адмены ганебнага прыгоннага права. Аднак, дамогшыся кароткай аўдыенцыі ў свайго куміра, Алесь разумее: яго Айчына для імператара – не больш чым разменная манета ў палітычнай гульні. Сяляне, для якіх ён дамагаўся волі, паляць шляхецкія сядзібы. Ліцьвіны сустракаюцца тварам да твару на палях бітваў за варагуючыя бакі. За чые ж інтарэсы яны праліваюць кроў, калі абодва гэтыя войскі ў іх дома паводзяць сябе, як на варожай тэрыторыі? Што ж, у лістападзе геніяльны авантурнік Андрэй Беканаў падкажа Алесю спосаб дамагчыся свабодаў для яго Літвы – купіць іх у цара ў абмен на Напалеона, якога можна захапіць у закладнікі…




**Чыгрын Сяргей. Па слядах Купалы і Коласа: літаратурнакраязнаўчыя артыкулы і вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 120 с.**

Сяргей Чыгрын у новай кнізе запрашае чытачоў прайсціся па слядах Купалы і Коласа, што ідуць праз Слонімшчыну, Беласточчыну, Варшаву, Казань, Вільню да тых людзей, якія з Янкам Купалам і Якубам Коласам сябравалі, пісалі пра іх творчасць. Сярод іх Уладыслаў Чаржынскі, Аляксандр Вазнясенскі, Алег Лойка і іншыя. Значнае месца ў кнізе займае повязь класікаў са Слонімшчынай: распавядаецца пра візіт Купалы ў Слонім у 1939-м годзе і пра музей беларускай кнігі пры Слонімскай раённай бібліятэцы імя Якуба Коласа. І хоць Якуб Колас ні разу не быў у Слоніме, але творчасць песняра непарыўна звязана з горадам над Шчарай і яго жыхарамі – тут жыла Ядвіся Бараноўская, якая стала прататыпам Ядвісі Баранкевіч у аўтабіяграфічнай аповесці Якуба Коласа «У палескай глушы».




**Жыццё і творчасць Анатоля Іверса: успаміны, згадкі, рэцэнзіі, прысвячэнні, пісьмы, фотаздымкі. Уклад. і камент. С. Чыгрына. – Мінск: Кнігазбор, 2012, – 112 с.**

Выданне прысвечана памяці Анатоля Іверса (Івана Дарафеевіча Міско) (1912-1999), беларускага паэта, журналіста і публіцыста, удзельніка Другой сусветнай вайны. У кнізе праз успаміны сяброў, літаратараў, землякоў раскрываецца непаўторная і таленавітая асоба, цікавая творчая біяграфія аднаго з выдатных людзей Слонімшчыны.

# «Абышліся без канвертаў!»

Уручэнне літаратурнай узнагароды часопіса «Дзеяслоў» адбылося 2 красавіка ў Мінску. Галоўная інтрыга вечара была забітая за два дні да ўручэння прэмій – рэдакцыя часопіса яшчэ ў сераду паведаміла, хто атрымаў прэмію. «Сёлета абышліся без канвертаў!» – так акрэсліў гэта галоўны рэдактар «Дзеяслова» Барыс Пятровіч. Каментуючы такое рашэнне, ён жартаўліва спаслаўся на тое, што арганізатары не хацелі, каб намінанты хваляваліся. На самім жа ўручэнні прысутнічалі толькі лаўрэаты і іх сябры, супрацоўнікі часопіса і нешматлікія журналісты – усяго каля пятнаццаці чалавек.

Адкрыўшы цырымонію, Барыс Пятровіч зазначыў, што рашэнне правесці ўручэнне камерна прадыктаванае найперш тым, што сітуацыя з літаратурнымі прэміямі ў Беларусі змянілася. Сёлета спаўняецца 10 гадоў часопісу «Дзеяслоў», «Залаты апостраф» уручаўся ўжо ў дзявяты раз. І калі спачатку ўзнагарода была адной з нешматлікіх літаратурных прэміяў у краіне і яе ўручэнне праводзілася ў Доме літаратара, куды прыходзіла па 300-400 чалавек, дык цяпер сітуацыя іншая: у гэтым годзе да ўзнагародаў дадаўся «Гедройц», годам раней – прэмія за найлепшы дэбют імя Багдановіча. Таму аб’ектыўна «Залаты апостраф» перасунуўся на тое месца ў іерархіі, якое яму і належыць, – ён канчаткова стаў рэдакцыйнай узнагародай. Іншая рэч, што роля гэтай рэдакцыі ў літаратурным працэсе вялікая. Аднак, прынамсі на словах, Барыс Пятровіч не шкадуе пра такі паварот і жадае ўсім нам, каб «толькі павялічвалася колькасць прэміяў».

Дыплом лаўрэата «Залатога апострафа» за дасягненні ў галіне прозы ўручылі Ігару Бабкову. Ігар Бабкоў, атрымаўшы дыплом, сказаў кароткую прамову, у якой падзякаваў рэдакцыі і адзначыў, што яму было прыемна канкураваць з такімі пісьменнікамі, як Макс Шчур, Ева Вежнавец і Славамір Адамовіч. Першыя два, дарэчы, цяпер жывуць за межамі Беларусі, а апошні не так даўно ў яе вярнуўся. Адказваючы на пытанні, Ігар Бабкоў «падзякаваў Богу», што ён не на месцы рэдакцыі і яму не давялося выбіраць, каму аддаць узнагароду. Сп. Бабкоў расказаў нам пра сваё бачанне лаўрэата ў галіне паэзіі Віктара Жыбуля. Паводле ягоных словаў, гэты паэт стварае ў сур’ёзнай традыцыі, якую да яго распрацоўвалі Хармс, абэрыуты і прадстаўнікі англійскага абсурдызму, але ягоны (Жыбуля) чытач чакае ад паэта толькі пацехі і, умоўна кажучы, анекдотаў. І наогул, беларускай літаратуры, на думку Ігара Бабкова, «не хапае ўважлівай крытычнай працы, інтэрпрэтацыі, зацікаўленасці асабістай». У самой жа літаратуры як корпуса тэкстаў, на думку паэта, усё ў парадку.




Дыплом за прэмію ў галіне паэзіі ўручаў Эдуард Акулін. Ён, трымаючы інтрыгу ў голасе, зазначыў: «Я думаю, што гэты паэт заслужыў прэмію. Ён не спяшаўся да нас, у «Дзеяслоў», і атрымаў узнагароду з другога разу». Віктар Жыбуль, які ў камернай абстаноўцы быў не схільны чытаць і прамаўляць у сваёй звычайнай экспрэсіўнай манеры, адзначыў, што атрымаў прэмію ён «за вершы выпадковыя. Не… Не выпадковыя, бо напісаліся яны з натхненнем. Няхай будзе натхненне!» – прамовіў ён амаль тост і, як і Ігар Бабкоў, адзначыў вартасці сваіх канкурэнтаў.

Прэмію за найлепшы дэбют уручаў былы старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Пашкевіч. Ён пачаў з «крамольнай думкі», што менавіта гэтае адгалінаванне ёсць найгалоўнейшым, не толькі таму, што тут супернічаюць як паэты і празаікі, так і драматургі, а таму, што менавіта за сённяшнімі дэбютантамі будучыня беларускай літаратуры. Алесь Плотка, які і атрымаў прэмію за найлепшы дэбют, адзначыў, што ў прозвішчах усіх дыпламантаў па шэсць літараў. На думку сп. Алеся, гэта нагадвае «чорны мерседэс 6666», які вязе беларускую літаратуру ў будучыню. Метафара дастаткова цьмяная, але дэбютант не стаў тлумачыць падрабязней.

Прэмію за ўклад у беларускую літаратуру, заснаваную часопісам «Дзеяслоў» разам з Алесем Усенем, уручаў сам сп. Усеня. Выбар дыпламанта ў гэтым годзе ён патлумачыў проста: «Хто з вас чытаў кнігі Міхася Калачынскага? Ды ніхто! А па гэтыя кніжкі пойдуць! – эмацыйна прамовіў ён, маючы на ўвазе «Беларускі кнігазбор», якім і апякуецца сп. Цвірка. – Нашыя зборнікі чытаць не будуць! А па гэтыя кніжкі пойдуць. Менавіта Кастусь Аляксандравіч Цвірка можа зрабіць так, каб творы іншых чыталі». Паводле словаў Алеся Усені, сёлета менавіта ён прапанаваў кандыдатуру Кастуся Аляксандравіча, журы ж пагадзілася з ім, звычайна ж суфундатар узнагароды не ўмешваўся ў рашэнне рэдакцыі, але, адказваючы на пытанні, ён зазначыў, што ёсць шмат вартых літаратараў старэйшага веку, якія заслужылі ўзнагароду, сярод іншых ён назваў спадароў Гілевіча, Бураўкіна і Барадуліна.

У сваёй прамове Кастусь Цвірка паведаміў, што нядаўна 60-ы выпуск «Кнігазбора» быў здадзены ў друк, усяго ж запланавана 200 тамоў. Адказваючы на пытанні, лаўрэат паведаміў, што не хоча гаварыць, каму б ён сам аддаў гэтую ўзнагароду, што тут «трэба падумаць», каб каго-небудзь не пакрыўдзіць.

Пры канцы вечара, адказваючы на пытанні, Барыс Пятровіч расказаў, што «не бачыць тэндэнцыі» ў тым, што прэміі за прозу і паэзію сёлета атрымалі яскравыя прадстаўнікі мадэрнізму – Віктар Жыбуль і Ігар Бабкоў. Паводле ягоных словаў, часопіс і надалей будзе друкаваць прадстаўнікоў розных літаратурных плыняў. Аднак на думку сп. Пятровіча, гэта можа быць сведчаннем таго, што сама літаратура схіляецца ў гэты бок, што самыя цікавыя творы ствараюцца менавіта на глебе мадэрнізму, што «наперад выходзяць творцы, якія працуюць з мовай, яны на галаву вышэйшыя за іншых», але «як часопіс зводзіцца адным чалавекам, так і беларуская літаратура – адзіная».

**Андрэй Адамовіч,**
**фота Аляксандра Ждановіча**
**для budzma.org**




**Сасноўскі Зміцер. Гісторыя беларускай музычнай культуры XIX–XX стст. – Мінск: Харвест, 2012. – 336 с.: іл. – (Неизвестная история).**

Кніга прысвечаная асноўным падзеям і тэндэнцыям развіцця беларускага музычнага мастацтва XIX–XX стст. Некаторыя тэмы ўпершыню ўздымаюцца ў беларускай музычнай літаратуры, многія крыніцы ўпершыню ўведзеныя ў навуковы ўжытак. Гэтая кніга – другая частка даследавання З. Сасноўскага, першая – «Гісторыя беларускай музычнай культуры: Ад старажытнасці да канца XVIII ст.» – пабачыла свет у 2010 г.




**Абрамчук Раман. Музыка на Беларусі: ад архаікі да сучаснасці (Навуковы рэдактар А.Я.Тарас). – Рыга: Інстытут беларускай гісторыі і культуры, 2012. – 144 с.: іл. – (Неизвестная история).**

Аўтар прысвяціў кнігу аналізу вобраза Музыкі ў традыцыйнай і прафесійнай беларускай культуры. На думку аўтара, гэты архаічны герой перыядычна «актуалізуецца» ў нацыянальнай культуры тады, калі ён найбольш неабходны грамадству. Архетып Музыкі аўтар суадносіць з героямі сучаснай літаратуры і з канкрэтнымі гістарычнымі асобамі – музыкамі, кампазітарамі, спевакамі, мастакамі, паэтамі. Яскравы прыклад – вобраз Сымона-Музыкі з паэмы Якуба Коласа… Кніга добра ілюстраваная, адрасуецца шырокаму колу чытачоў.




**Деды: дайджест публикаций о беларуской истории. Выпуск 8. Составление, научное редактирование А. Е. Тараса. – Минск: Харвест, 2011. – 280 с.**

Гэты выпуск дайджэста ўтрымлівае артыкулы па гістарыяграфіі («Заграбучыя летувісы» М. Шкялёнка, «Беларускі нацыянальнавызваленчы рух у XIX–пачатку XX стст.» А. Каўкі), мове і літаратуры («Сервілізм у беларускай савецкай літаратуры» П. Васючэнкі, «Погляд на трасянку з пазіцыі лінгвістыкі» Г. Цыхуна), асаблівасцях нацыянальнай псіхалогіі («Талерантнасць праз прызму нацыянальнай культуры» Н. Грэбень, Э. Дубянецкі) і інш.




**Захаревич Сергей. Партизаны СССР: от мифов к реальности. – Вильня: Наша будучыня, 2012. – 360 с.: ил. – (Неизвестная история).**

Гісторыя партызанскага руху на тэрыторыі СССР, акупаванай войскамі Германіі і яе саюзнікамі, міфалагізаваная і ў Расіі, і ў Беларусі. Замест крытычнага аналізу рэальных падзей, іх прычынаў і наступстваў, чытачам прапануюцца выдумкі, якія складаліся партыйнымі чыноўнікамі, савецкімі літаратарамі і журналістамі. Аўтар кнігі аспрэчвае шэраг такіх міфаў. Асноўную ўвагу ён надаў наступным пытанням: 1) ці быў партызанскі рух агульнанародным супраціўам?; 2) чым ён быў на самой справе?; 3) якая яго эфектыўнасць з ваенна-стратэгічнага пункту гледжання?; 4) ці ўчынялі партызаны ваенныя злачынствы? Яго высновы пацверджаныя выпіскамі з навуковых даследаванняў, сведчаннямі ўдзельнікаў падзей, а таксама статыстычнымі дадзенымі.




**Шунейка Яўген. Праспект Незалежнасці: нарысы. – Мінск: Галіяфы, 2012. – 153 с.: іл. – (Адсутнае беларускае мастацтва).**

«Мой зборнік называецца «Праспект Незалежнасці» зусім не выпадкова. Я жыву і працую ў Мінску, дзе наш галоўны праспект адыгрывае не толькі ролю самай ажыўленай транспартнай магістралі. Паабапал яго канцэнтруюцца ўсе вядучыя мастацкія галерэі і музеі, а да таго ж сюды выходзіць сваім галоўным фасадам мая творчая «альма-матэр», дзе я выкладаю ўжо больш за 20 гадоў. Усё, што прапануецца на старонках гэтага выдання, напісана акурат у той перыяд, калі я рэгулярна шпацыраваў для прасвятлення думак па праспекце. А ён, за маю да яго прывязанасць, падараваў мне шмат творчых ідэй, якія, будзем спадзявацца, не пакінуць абыякавым і цябе, дарагі чытач», – тлумачыць назву кнігі аўтар у звароце да чытача.




**Паграноўскі Мікалай. Інтэрпрэтацыі. – Мінск: Галіяфы, 2012. – 118 с., іл. – (Адсутнае беларускае мастацтва).**

Мастацтвазнаўца, па сутнасці, – інтэрпрэтатар, «перакладчык» твораў выяўленчага мастацтва. Візуальную мову ён ператлумачвае на мову вербальную і пры гэтым дадае ўласныя разважанні наконт пэўнага твора альбо перыяду творчай біяграфіі. Каб зразумець, наколькі Мікалаю Паграноўскаму тое ўдалося, трэба, як мінімум, прачытаць гэтую кнігу. Ніколі ён не дазваляў сабе такіх вольнасцяў, як «замураваць» мастака ў якім-небудзь шэрагу аўтараў, а тым больш пазначыць ягоны рост паводле ранжыру: гэта лепей зробіць Час. Паграноўскі заўсёды паказвае мастака як творчую асобу, якая пазітыўна ўплывае на сваё кола зносінаў і, праз яго, на цэлае грамадства.




**Знакамітыя мінчане. Мінск і Міншчына ў літаратурных творах на рубяжы XIX–XX стст.: Матэрыялы VI Беларуска-польскай навук. канф.: Мінск, 27 красавіка 2010 г. Польскі Інстытут у Мінску: рэдкал. А. Вялікі [і інш.]; навук рэд. А. Вялікі і З. Вінніцкі. – Мінск: Выд. В. Хурсік, 2011. – 220 с.**

Зборнік матэрыялаў VI Беларуска-польскай навукова-тэарэтычнай канферэнцыі «Мінск і Міншчына ў літаратурных творах на рубяжы XIX–XX стст.», прысвечаны пісьменнікам, у творчасці якіх мастацкімі сродкамі адлюстравалася Міншчына і Мінск.




**Гарадзенскі палімпсест 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XV–XX стст. Пад рэд. А. Ф. Смаленчука, Н. У. Сліж. – Мінск: Зміцер Колас, 2012. – 384 с. [14 іл.].**

Матэрыялы зборніка прысвечаны вывучэнню мінулага Гродна як феномена лакальнай гісторыі. У цэнтры даследніцкай увагі апынуліся сацыяльныя адносіны ў межах «трохкутніка»: Асоба – Грамадства – Дзяржава. Гісторыя дзяржаўных і судовых установаў часоў ВКЛ дапаўняецца даследаваннямі з галіны антрапалагічнай гісторыі, якія пашыраюць далягляды беларускай гістарычнай урбаністыкі. Кніга адрасаваная ўсім, каго цікавіць гісторыя гарадоў Беларусі.




**Васіль Быкаў. Гарадзенскі архіў: Невядомыя творы (1957–1972). Незавершанае. Нататнікі. Уклад., уступнае слова і камент. С. Шапран. – Гародня – Wrocław: Гарадзенская бібліятэка, 2012. – 448 с.**

Гэта не зборнік невядомых твораў Васіля Быкава ў звычайным разуменні – гэта першае цалкам архіўнае выданне народнага пісьменніка Беларусі, куды ўвайшлі яго раннія творы, напісаныя больш за паўстагоддзя таму, што ніколі дасюль не друкаваліся: аповесць, апавяданне, прыпавесці, кінасцэнарый па аповесці «Сотнікаў», а таксама незавершаная аўтабіяграфія. Тут жа прадстаўлены пераклад на рускую мову аповесці «Апошні баец», які дазваляе выявіць зробленыя падчас першапублікацыі ў 1958 г. у газеце «Чырвоная змена» скарачэнні і такім чынам узнавіць раннюю рэдакцыю першай аповесці В. Быкава. Значную частку кнігі складаюць незавершаныя творы і запісы з нататнікаў, якія сам пісьменнік называў «голымі ідэямі», якія даюць пэўнае ўяўленне пра «творчую кухню» Быкава ў гарадзенскі перыяд і пра тую велізарную працу, якая папярэднічала таму, што пасля крытыка назвала «быкаўскай аповесцю».




**Геніюш Ларыса. Лісты з Зэльвы. З эпісталярнай спадчыны (1964 – 1983). – Гародня – Wrocław: Гарадзенская бібліятэка, 2012. – 450 с.**

Лісты Ларысы Геніюш... У іх знайшлі сваё адлюстраванне самыя розныя падзеі – паўсядзённыя і эпахальныя. У іх своеасаблівы летапіс грамадска-культурнага жыцця Гарадзеншчыны другой паловы XX стагоддзя, бескампрамісная ацэнка палітычных падзеяў, літаратурных твораў, людскіх учынкаў. У зборнік увайшлі 420 лістоў, 366 з якіх публікуюцца ўпершыню. Выданне багата ілюстраванае ўнікальнымі фотаздымкамі.




**Воложинский Владимир. Минск в легендах, мифах и преданиях. – Минск: ФУАинформ, 2012. – 352 с.: ил.**

Гэтая кніга – зборнік міфаў, легенд і паданняў пра Мінск і яго ваколіцы. Прыведзеныя легенды маюць розную ступень праўдзівасці. Адны з іх з'яўляюцца выдумкай, міфамі, казкамі. Іншыя – заснаваныя на рэальных падзеях, што некалі мелі месца ў жыцці горада, адбываліся з яго жыхарамі і пакінулі след у народнай памяці. У кнізе прыведзены версіі з'яўлення назваў некаторых гарадскіх прадмесцяў, гарадскіх тапонімаў, а таксама прыклады сучаснай «вулічнай» тапанімікі, што ўзнікла ў нядаўнім мінулым і працягвае з'яўляцца ў наш час, на нашых вачах. Кніга будзе цікавай як мінчанам, так і гасцям сталіцы.




**Макарэвіч Сяргей. Край мой верасовы: краязнаўчыя эсэ, эпісталярый. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 136 с.**

У кнізе распавядаецца пра жыццёвыя шляхі творчых асобаў з роднай для аўтара Вілейшчыны. Краязнаўчыя эсэ прадстаўляюць партрэты нашых сучаснікаў і людзей з мінулага: пісьменнікаў, мастакоў, краязнаўцаў... Уздымы і падзенні, спраўджаныя і не да канца спадзяванні, якія на іх ускладаліся. Яны розныя, але ім усім пашчасціла нарадзіцца ці працаваць у краі верасоў.




**Лепешаў Іван. Упоравень з часам: зб. артыкулаў. – Гродна: «ЮрСаПринт», 2012. – 177 с.: іл.**

У гэтым зборніку змешчаны некаторыя актуальныя і сёння, артыкулы абразкі, водгукі пераважна мовазнаўчай тэматыкі, апублікаваныя ў 2011 годзе ў перыядычным друку – часопісах і газетах. Тэксты, змешчаныя ў рускамоўных выданнях, і тут падаюцца па-руску.




**Піскуноў Фёдар. Вялікі слоўнік беларускай мовы: арфаграфія, акцэнтуацыя, парадыгматыка: каля 223 тысяч слоў. – Мінск: Зміцер Колас. 2012. – XVI + 1196 с.**

Слоўнік уяўляе сабой арыгінальны даведнік універсальнага тыпу, які найбольш поўна адлюстроўвае лексічнае багацце сучаснай беларускай мовы. Ён змяшчае каля 223 тысяч лексічных адзінак. Прынцыповае адрозненне яго ад папярэдніх выданняў у тым, што ён створаны на аснове электроннай базы шляхам апрацоўкі значных аб'ёмаў тэкставых мтэрыялаў (больш за 70 млн словаўжыванняў з 2300 літаратурных крыніц.) У канцы слоўніка змешчаны ўзорныя табліцы скланення прыметнікаў і назоўнікаў (больш за 130 тыпаў) і спражэння дзеясловаў (больш за 140 тыпаў). У дадатку змешчаныя афіцыйныя назвы дзяржаў свету згодна з спісам ААН, назвы населеных пунктаў Беларусі, дзе ёсць паштовыя аддзяленні, геаграфічныя назвы свету. Выданне адрасуецца як спецыялістам, так і ўсім тым, хто вывучае беларускую мову, карыстаецца ёю.

# Кватэра з відам на Свіслач...

**Аляксандар Лукашук, «Сьлед матылька. Освальд у Менску». «Бібліятэка Свабоды. XIX стагодзьдзе», 2011. – 390 с.**

«След матылька. Освальд у Менску» Аляксандра Лукашука. Я чакаў гэтай кнігі. Гісторыя, якая непакоіць, незразумелая, загадкавая. Зусім жа блізка быў яе пачатак, мы там ходзім самі. Так, гісторыя Освальда заўжды трывожыла, хвалявала. Апошнія гады ягонага жыцця – гэта авантурніцкі сюжэт з трагічным заканчэннем. Было шкада ахвяру, прэзідэнта Джона Кенэдзі, але ж пачуццё жалю выклікаў і былы мянчук, як магчымая ахвяра памылковай высновы следства. Як вядома, Освальд толькі быў названы абвінавачаным, пасля чаго яго забілі. Ягоны забойца следам таксама развітаўся з жыццём.

Не скажу, што я марыў пра кнігу беларускага паходжання, не, проста хацелася больш прачытаць пра менскі час гэтай гісторыі. Цяпер ёсць менавіта беларуская кніга. Хаця Аляксандр Лукашук зазначае, што першае «літаратурнае следства» адносна жыцця Освальда ў Мінску правёў Норман Мэйлер, напісаўшы «Гісторыю Освальда». Яна дапамагла беларускаму аўтару напісаць сваё паралельнае літаратурнае следства.

Лукашук падсумоўвае сваю працу: «Не ўсё вычарпана, канечне», Освальд мог сустракацца ў Мінску з іншымі людзьмі, пошукі можна працягваць. Аднак відавочна, што «Сьлед матылька», знаходзячыся ў Менску, напісаць было б даволі цяжка. Аўтар зрабіў важныя рэчы: спачатку пераклаўшы раздзелы з кнігі Мэйлера, пазнаёміўшы з імі слухачоў Радыё Свабода і зрабіўшы інтэрв'ю з пісьменнікам. Ніхто не даведаўся, не ўзяў інтэрв'ю, калі той хадзіў па мінскіх вуліцах. Потым, пасля выхаду кнігі, у Штатах знайсці яго было значна цяжэй…

Параўноўваючы Освальда з матыльком, Аляксандр Лукашук надаў дакументальнай кнізе менавіта закончаную, зграбную празаічную форму. А ўключаючы ўрыўкі «мемуараў» Освальда, пазначае яшчэ адзін пласт гэтай гісторыі: амерыканец меў выразныя аўтарскія амбіцыі, аб чым доктар Говард Роўм, які аналізаваў рукапісы, засведчыў, што той неабгрунтавана ацэньваў свае «літаратурныя магчымасці».

Освальд жыў у Мінску ля радыёвежы, працаваў на радыёзаводзе. Цікава, што на адной вуліцы рабілі прыёмнікі з кароткімі хвалямі, з магчымасцю злавіць заходнюю радыёстанцыю, на другой ставілі моцныя глушылкі, каб слухаць было немагчыма.

Тэма была выйгрышнай – на паверхні. Але пакуль ніхто з нашых не ўзяўся, не пачаў капаць глыбока, яна выглядала міражом, паветраным збудаваннем.

Кніга Аляксандра Лукашука стала падзеяй: незвычайны матэрыял, адметнае ўвасабленне. Цікава, што ён




пакідае магчымасць для іншых аўтараў нетрывіяльным крокам. Аўтар прапанаваў Мэйлеру ўявіць, што за амерыканскім пісьменнікам, які наведаў Мінск, каб напісаць кнігу пра амерыканца, які тут некалі жыў, сочаць, праслухоўваюць, прымушаюць пісаць справаздачы асобаў, якія з ім кантактуюць. А пазней прыязджае даследчык творчасці гэтага пісьменніка і атрымлівае доступ да архіваў спецслужбаў, якія за ім сачылі. «Мэйлер засмяяўся», – паведамляе Лукашук.

Пасля кнігі «Сьлед матылька. Освальд у Менску» ў Штатах выйшаў новы раман Стывена Кінга «11/22/63», гэта дата забойства Кенэдзі (у Штатах, як вядома, перш пазначаецца месяц, затым дзень). Тэма не пакідае пісьменнікаў абыякавымі. Кінга зацікавіла: як магло б быць, каб Кенэдзі застаўся жывы… У сваю чаргу, нам не забараняецца іншы сюжэт: што магло б стаць з Освальдам, каб забойства прэзідэнта не адбылося? Як бы ён скончыў, былы мінчук, колькі і якіх дроў яшчэ наламаў бы?

**Сяргей Астравец**

# «Не варта імкнуцца да славы дзеля славы...»

*(Пачатак на стар. 1)*

вых дзён» Янкі Лучыны, прысвечанага паўстанню 1863 г., што асабліва моцна на абуджэнні гераічнага патрыятызму тагачаснай моладзі адбілася аб'яднанне Італіі. Не магу не працытаваць: «Газеты расхоплівалі, з ліхаманкавай нецярплівасцю сачылі за ходам гэтага змагання за незалежнасць: у тагачасным становішчы Італіі знаходзілі пэўную аналогію з няшчаснай айчынай. Зара свабоды, якая заззяла над Апенінамі, здавалася, кідае слабы праменьчык на нашыя раўніны» (пер. У. Мархеля).

Але я ўпэўнена, што не толькі італьянская культура можа ўзбагачаць беларускую, але і наадварот. І тут уся праца яшчэ наперадзе.

**– У лютым на жаночым слэме Вы першай уступілі ў «бітву» (з вершам пра Шчірліца). Як Вы лічыце, каб атрымаць прызнанне паэт XXI стагодзя павінен быць «ваяром» і, адпаведна, славу і прызнанне заваяваць у «бітвах паэтаў» (паэтычных слэмах), быць публічным – новыя вершы адразу ж публікаваць у блогу (ЖЖ) – ці ісці «традыйным» шляхам – сустракацца з чытачамі, публікаваць вершы ў газетах і часопісах і… выдаваць кніжкі…**

– Тое, што мне давялося распачаць слэм, зусім не мая «заслуга». А ўвогуле, я згадзілася ў ім удзельнічаць, таму што мне было цікава паспрабаваць. Пры гэтым я чалавек не вельмі публічны, а да нядаўняга часу была яшчэ менш публічным чалавекам. І выступаю я не часта. Што датычыцца славы і прызнання... Пытанне ў тым, дзеля чаго. Не варта імкнуцца да славы дзеля славы і траціць на гэта намаганні. Лепш засяродзіцца над напаўненнем сваёй творчасці. Я зараз чытаю кнігу Фрома «Мець або быць», яна якраз пра гэта. Усё настолькі адносна...

Тым не менш, калі чалавек піша, то нехта павінен гэта прачытаць, ну хаця б дзеля таго, каб даць гэтаму нейкую ацэнку і, магчыма, дапамагчы парадай. Можна паспрабаваць і з інтэрнэтам, праводзяцца конкурсы маладых літаратараў. Тут не можа быць адзінага рэцэпту. Не варта адмаўляцца і ад сустрэч з чытачамі і, скажам так, ад папулярызацыі ўласных твораў і літаратуры ўвогуле.

У мяне ніколі не было патрэбы быць вядомай. Выдавец Ігар Логвінаў называе такіх аўтараў «пасіўнымі». Але тут узаемазвязаныя рэчы ў пэўным сэнсе: калі ты робіш нешта каштоўнае, то на гэта звяртаюць увагу, і вядомасць прыходзіць, але ў такім разе вядомасць ёсць прызнанне вартасці таго, што ты робіш. Акрамя таго, існуюць розныя тыпы творцаў: адзін утульна адчувае сябе ў публічнай прасторы, другі не вельмі, але на маю думку, усе больш-менш значныя аўтары рана ці позна туды трапляюць. Галоўнае, вызначыцца з прыярытэтамі – «мець або быць», бо ў любым выпадку пра нас будуць меркаваць у першую чаргу па нашай творчасці.

**– Калі да Вас «прыходзяць» вершы, раніцай ці вечарам, за пісьмовым сталом ці па дарозе дадому… Наколькі залежыць гэта ад настрою і стану душы?**

– Вершы, а дакладней думка, вобраз, ідэя верша могуць прыйсці ў любы момант, нават па дарозе дадому, але калі ты за рулём, то трэба глядзець, куды едзеш, і тут ужо не да вершаў, галоўнае, не забыцца пра іх да той шчаслівай хвіліны, калі ўрэшце ты прыедзеш дадому, дома ўсе зоймуцца сваімі справамі, а ты зможаш заняцца сваімі. Абстрагавацца ад навакольнага свету. На дадзеным этапе майго жыцця гэта так.

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Віктар Жыбуль. Стапеліі. – Мінск: Галіяфы, 2012. – 220 с. – (Другі фронт мастацтваў).**

Даўно анансаваная і чаканая кніга. З моманту выхаду папярэдняга зборніка Віктара Жыбуля мінула дзевяць гадоў, што для любога паэта нямала. Зборнік ахоплівае 15 гадоў творчай працы: у ім ёсць як зусім свежыя тэксты, так і вершы сярэдзіны 1990-х. Сам паэт акрэслівае інтанацыю большасці вершаў кнігі як пост-дэкаданс. Як пазначана ў анатацыі, «кніга вылучаецца большай філасафічнасцю і змрачнаватай, хоць месцамі і іранічнай, танальнасцю, са зваротам да вострых праблемаў свету рэальнага і свету ірэальнага».

Калі я быў яшчэ маленькім сперматазоідам,
я ўжо адчуваў унутраны супраціў.
Я ўяўляў сябе імклівым астэроідам
і лёгка прарываўся скрозь любы прэзерватыў...




**Александр Федута. Американские стихи. – Berlin: SAWADOSKI-Verlag, 2012 – 72 c.**

Блюзнерствам было б казаць, што адседка пайшла аўтару «на карысць», «раскрыла творчы патэнцыял» і да т.п. Але тое, што ў тых умовах чалавек здолеў захаваць і цвярозы розум, і пачуццё гумару, – шмат пра што гаворыць. Аляксандр Фядута – з невыкараняльнай ніякімі абставінамі пароды інтэлігентаў. А інтэлігентнасць – гэта і мужнасць, і адказнасць, і самаіронія. «Американские стихи» – той выпадак, калі вершаваная і празаічна-дакументальная часткі існуюць у гэткім гарманічным адзінстве, узаемна перацякаюць і ўспрымацца мусяць менавіта гэтак, дыялектычна.




**Вера Бурлак. Творы соннага жанру. – Мінск: Логвінаў, 2011. – 100 с.**

«У мінскім метро лініі параўнальна кароткія, – піша аўтарка ў такой сабе тлумачальнай запісцы пад назовам «Проза для чытання ў мінскім метро». – Яны патрабуюць адпаведных раманаў. Падоўжацца лініі – і, магчыма, раманы стануць даўжэйшымі». Так, у кнізе ёсць «дэтэктыўны», «філасофскі», «дамскі», «прыгодніцкі» раманы, што разам займаюць крыху больш за дзесяць старонак…

Калі вершы Джэці пераважна хуліганска-пацанскія, то проза Веры Бурлак нават не жаночая, але жаноцкая – з усім вынікальным адсюль: нелінейнасцю мыслення, направерхневай сентыментальнасцю, поўным паглыбленнем у вербальную стыхію мовы й разліцці ў ёй.

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: logvinovpress@mail.ru,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ПУП «Радыёла-плюс»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65

**«Кнігарня «Наша Ніва»,**
e-mail: alaksandradynko@gmail.com,
тэл.: +375 29 872 26 35



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Кніга Ноша
№ 14
травень, 2012
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 14, 20.5.2012.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220030, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com